Беларуская

# КРЫНІЦА

Палітычная, грамадзкая і літаратурная газэта

Штомесячнае выданьне | Выходзіць з 8 (21) кастрычніка 1917 г. | Адноўлена ў 1991 г. | № 2(770). САКАВІК 1991 г. | Кошт 60 кап.

*Па-вясьнянаму зіхацяць сонца, лагоднеюць абліччы ў людзей. Ужо блізка наша найвялікшае хрысьціянскае сьвята — Вялікдзень, сьветлае Хрыстова Уваскрасеньне. І неўзабаве ўсьцяж—залунае водгульле велікодных званоў, над нашым Краем узьнясецца ўрачысты воклік: ХРЫСТОС УВАСКРОС! У гэтай радаснай шматгалоснасьці хай пачуеце вы, людзі добрыя, і наш голас, зьвернуты да ўсіх вас:*

## *Хрыстос уваскрос!*

Янка КУПАЛА

## ВЯЛІКДЗЕНЬ

Два сьвяты на сьвеце — ад нівы да нівы:
Хрыстос уваскрос! наступае вясна!
Глянь сьмела, глянь вольна, шчасьліў, нешчасьлівы,
І далей к жыцьцю з паніжэньня і сна!

Гэй, гэй, на спатканьне вялікіх двух сьвятаў
Сьпяшыце супольна, хто ў путах ня згніў!
Хай льюцца-зыльюцца ад хаты да хаты
Ў вадно ўсе грамады, ўсе людзі ўсіх ніў.

* * *

Вялікдзень! Вялікдзень! ад нівы да нівы.
Забыў не адзін з нас нядаўныя дні,
А ўспомні-прыпомні, шчасьліў, нешчасьлівы,
Аб тых, што ў сьвітаньні на век адыйшлі, —

Ўсе костачкі тыя на гонях папарных,
Жывых, што ў бяспуцьці акуцьцем звіняць...
Прыпомні, дай слова ня шчэзнуці марна,
Пачатую справу шырыць, расшыраць!

* *

Вялікдзень! Вялікдзень! ад нівы да нівы
Заводзе бацькоў сваіх песеньку сын.
Зірні ж, азірніся, шчасьліў, нешчасьлівы,
І заўтра на поле да сох, як адзін!

Дагэтуль мы плачам, дагэтуль мы стогнем,
Адвечных ня можам пазбыціся слёз...
Наперад па шчасьце! Хай злое ўсё дрогне,
Вясна ўжо на сьвеце, — Хрыстос уваскрос!

---

Мы выйдзем шчыльнымі радамі
На вольны, родны свой прастор,
Хай воля вечна будзе з намі,
А гвалту мы дамо адпор.

# «ЗАЦЬВЯРДЖАЕ ЎСЕ ПРАВЫ І ВОЛЬНАСЬЦІ...»

У ліпені 1914 г. пачалася вайна паміж Траістым саюзам і Антантаю, у якую ўваходзіла і Расея. А ўжо ў верасьні 1915 года Беларусь стала арэнаю ваенных дзеяньняў — фронт праходзіў па ёй з поўначы на поўдзень па лініі Дзьвінск — возера Нарач — Смаргонь — Карэлічы — Баранавічы—Пінск. Беларуская зямля сьцякала крывёю, людзі гвалтам выганяліся ў бежанства. У лютым 1918 г. у Расеі выбухнула рэвалюцыя, якая звергнула з трону цара. Праз восем месяцаў адбыўся бальшавіцкі пераварот у Петраградзе. Яшчэ да яго ў Беларусі ажывіўся і стаў набіраць сілу нацыянальна-вызваленчы рух, узьнік шэраг палітычных партый і арганізацыяў. Яны сталі асноваю Вялікае Беларускае Рады і склікалі Усебеларускі Кангрэс.

Кангрэс сабраўся 18 сьнежня 1918 г. у Менску, у ім удзельнічалі 1872 дэлегаты з усіх этнічна-беларускіх тэрыторыяў — ад Смаленска і да Беластока. Яны абралі Раду Кангрэсу. Пры разглядзе найважнейшага пытаньня — пра будучыню Беларусі — большасьць дэлегатаў выказалася за незалежнасьць і праклямаваньне дэмакратычнай рэспублікі.

Бальшавіцы, якія адмовіліся ад удзелу ў Кангрэсе, уважна сачылі за ходам яговае працы. І калі ўбачылі, што ідэі незалежнасьці перамагаюць, разагналі Кангрэс сілаю расейскіх вайсковых фармаваньняў Менскага гарнізону, які быў пад іхнім уплывам. «Зьезд разганяецца пагрозаю штыхоў... — пісаў у сваіх успамінах дэлегат Кангрэсу Макар Краўцоў.— Нехта запяяў беларускую марсэльезу. З ёю выходзім, паміж шпалерамі збройных салдатаў, па сходах на Падгорную вуліцу... На скрыжаваньні Скобелеўскай і Падгорнай ваякі на белых конях... Два панцырнікі грозна маўчаць... Гінула воля народная сярод мяккае зімовае ночы, ахінуўшай сэрца Беларусі ценямі рабства...»

Але на гэтым гвалце змаганьне за незалежнасьць Беларусі ня скончылася. У лютым 1918 г. немцы зноў рушылі ў наступ на ўсход. Бальшавікі пакідалі адзін горад за другім, сталі сьпешна адступаць. Пакінулі яны і Менск. Нямецкія войскі былі дзесьці на далёкіх подступах да горада. У гэты час, 8(21) лютага 1918 г. Выканаўчы камітэт Рады Усебеларускага Кангрэсу выдаў сваю «1-ю Устаўную Грамату да народаў Беларусі».

«Мы павінны ўзяць свой лёс ва ўласныя рукі. Беларускі народ павінен зьдзейсьніць сваё права на поўнае самавызначэньне, а нацыянальныя меншасьці на нацыянальна-пэрсанальную аўтаномію,— гаварылася ў ёй.— Права нацыі павінна знайсьці сваё зьдзяйсьненьне шляхам скліканьня на дэмакратычных асновах Устаноўчага Сойму.

Але і да скліканьня Устаноўчага Сойму ўся ўлада на Беларусі павінна належаць тым народам, якія на ёй жывуць.

Выканаўчы Камітэт Рады першага Усебеларускага Зьезду, папоўнены прадстаўнікамі рэвалюцыйнай дэмакратыі нацыянаянальных меншасьцяў, зьдзяйсьняючы мэты Зьезду, абвяшчае сябе часовай уладай на Беларусі для кіраваньня краем і скліканьня, як можна хутчэй, Усебеларускага Устаноўчага Сойму на аснове агульнага права для ўсякага дарослага, не лічачыся з нацыянальнасьцю, вызнаньнем і родам.

Часовую народную ўладу краю, якая ставіць сабе мэтай абарону і зацьверджаньне заваяваньняў рэвалюцыі, будзе зьдзейсьневаць створаны намі Народны Сакратарыят Беларусі, які ад гэтага дня пачаў выконваць свае абавязкі». Народны Сакратарыят разам з Радаю Кангрэсу стаў адначасна ўрадам і парлямантам Беларусі.

8 сакавіка Выканаўчы Камітэт Рады Кангрэсу абнародаваў сваю «2-ю Устаўную Грматату да народаў Беларусі», у якой дакладна акрэсьліваўся дзяржаўны лад Беларусі, правы грамадзян усіх нацыянальнасьцяў:

«1. Беларусь у рубяжох расьсяленьня і лічэбнай перавагі беларускага народу абвяшчаецца Народнай Рэспублікай.

2. Асноўныя законы Беларускай Народнай Рэспублікі зацьвердзіць Устаноўчы Сойм Беларусі, скліканы на асновах агульнага, роўнага, простага, патаёмнага і прапарцыянальнага

(Заканчэньне на 2-й стар.)

### 3-я УСТАЎНАЯ ГРАМАТА РАДЫ
### БЕЛАРУСКАЕ НАРОДНАЕ РЭСПУБЛІКІ

**Год таму назад народы Беларусі разам з народамі Расеі ськінулі ярмо расейскага царызму, які найцяжэй прыцісnуў быў Беларусь; ня пытаючыся народу, ён кінуў наш край у пажар вайны, якая чыста зруйнавала гарады і вёскі беларускія. Цяпер мы, Рада Беларускай Народнай Рэспублікі, ськідаем з роднага краю апошняе ярмо дзяржаўнай залежнасьці, якое гвалтам накінулі расейскія цары на наш вольны і незалежын край. Ад гэтага часу Беларуская Народная Рэспубліка абвяшчаецца незалежнаю і вольнаю дзяржавай. Самі народы Беларусі ў асобе Устаноўчага Сойму пастановяць аб будучых дзяржаўных зьвязях Беларусі.**

**На моцы гэтага трацяць сілу ўсе старыя дзяржаўныя зьвязі, якія далі магчымасьць чужому ўраду падпісаць і за Беларусь трактат у Берасьці, што збівае на сьмерць беларускі народ, дзелячы зямлю яго на часткі. На моцы гэтага ўрад Беларускай Народнай Рэспублікі мае ўвайсьці у зносіны з зацікаўленымі странамі, прапануючы ім перагледзець тую часьціну Берасьцейскага трактату, якая датычыць Беларусі, і падпісаць мірную ўмову з усімі ваяваўшымі дзяржавамі.**

**Беларуская Народная Рэспубліка павінна абняць усе землі, дзе жыве і мае лічбенную перавагу беларускі народ, а ласьне: Магілёўшчыну, беларускія часьці Меншчыны, Гродненшчыны (з Гародняй, Беластокам і інш.) Вілейшчыны, Віцебшчыны, Смаленшчыны, Чарнігаўшчыны і сумежных часьцяў суседніх губэрняў, заселеных беларусамі.**

**Беларуская Народная Рэспубліка зацьвярджае ўсе тыя правы і вольнасьці грамадзян і народаў Беларусі, якія абвешчаныя Устаўной Граматай ад 9 сакавіка 1918 року.**

**Абвяшчаю аб незалежнасьці Беларускай Народнай рэспублікі, Рада яе пакладае свае надзеі на тое, што ўсе любячыя волю народы дапамогуць беларускаму народу ў поўнай меры зьдзейсьніць яго палітычна-дзяржаўныя ідэалы.**

**Рада Беларускай Народнай Рэспублікі.**

Дана ў Менску-Беларускім
24 сакавіка 1918 року.



# З ЖЫЦЬЦЯ І ДЗЕЙНАСЬЦІ КАЗІМЕРА СВАЯКА

*(Заканчэньне. Пачатак на 3-яе стар.).*

пісанае, бо роднае, простае — як душа русьняка. Ты, браце, беларус, выдаесься мне лепшым ад другіх народаў. Ты пакрыўджаны і нешчасьлівы, пакінены праз многа сваіх родных сыноў і дочкаў, аддадзены на зьдзек чужынцаў — і то здаўна — ты бедны, гаротны. І тут пэўна ляжыць прычына, чаму ты так блізкі сэрцу і душы маёй. Цябе не сказіў фальш, не ляжыць на тваіх плячах крыўда чужая: свая толькі ўрэзалася крывавы на іх і хіліць цябе да зямлі. Праўда і шчырасьць жыве йшчэ ў душы тваёй — нездарма ж называюць цябе «простым», даючы спазнаць, што другія народы здаўна ўжо скрывіліся. Пазнай толькі добра, хто ты, гарніся да прасьветы, а станеш сільным: а гэта сіла дасьць волю духу твайму, так цяжка загнанаму і пакрыўджанаму...

Не хачу я пакінуць цябе, Маці Беларусь, хоць тутка мус скажа ізноў разьвітацца з табой. Хачу служыць табе, хачу аддаць сябе для дабра душы тваёй. А яна— душа твая — чакае афяраў. Патрэбны афяры, калі мае прыйсьці выбаўленне. Я не пайду шырокім разгонам людзкога рахунку. Я хачу толькі служыць тваім патрэбам, беларусе. А яны аграмадны. Сапраўды сказаць трэба: «Жніво вялізнае, а працаўнікоў мала». Божа, дай мне зразумець і ўпэўніцца, якой жадаеш ад мяне службы? Аддаючыся найбліжэйшым братом маім, я хачу споўніць Волю Тваю, шукаць праўды і нясьці знайдзеную другім.

*13 жніўня.* Сягоньня, слухаючы звон наш цудны касьцельны, раблю спробу аддаць уражаньне вершам. Па-польску пішуць усе. Беларус — сірата: сьмяюцца з яго мовы. Я люблю бедных, апушчаных.... Буду пісаць па-беларуску. Мова беларуская ёсць гладкай і згучнай: можа служыць і да паэзіі (але сам сябе я да паэтаў залічыць не важуся). Пастараюся выгладзіць стыль свой беларускі. Згодзіцца ў будучыні».

### 111. «ХАЎРУС СВАЯКОЎ»

А вось урэшце надыйшла і сусьветная вайна, якая ў 1915 годзе нахлынуўшы на Беларусь падзяліла яе на дзьве часьці: адну часьць (заходнюю) занялі немцы, а другая (усходняя) падаўнейшаму асталася пад Расеяй. Галоўным асяродкам беларускага адраджэньня, як ведама, была тады Вільня. Вось жа нямецкая акупацыя Вільні і значнай часьці нашага Краю працу гэту, рэч зразумелая, спыніла. Газеты «Наша ніва» і «Беларус» выходзіць перасталі, выдавецтва спынілася, беларуская інтэлігенцыя разьехалася. Але так дрэнна было толькі ў пачатку. Хутка ўзноў пачалі тварыцца беларускія асяродкі і ў меру магчымасьці як у Вільні, так і на правінцыі, пачалася сякая-такая беларуская праца.

Вось жа з такіх працаўнікоў на беларускім сяле першае і бадай адзінай мейсца займае наш паэт і народны ідэолёг Казімер Сваяк. Вайна ў 1914 г. застае яго ў Клюшчанах Сьвянцянскага павету, у роднай ягонай парафіі, дзе ён з прычыны хваробы чакае на сьвяшчэнстве. Ужо ў гэтым годзе (29-Х1) ён арганізуе касьцельны хор, які пяе так жа і песьні беларускія.

У 1915 годзе Каз.Сваяк як вікары прабывае месяц у Камаях, а пасьля у роднай парфіі і далей працуе для беларускай справы. Хор яго, склад якога даходзіў да 40 асоб, разьвіваецца і апрача беларускіх песьняў ладзіць такжа і беларускія лекцыі. Так, напр., гэты хор, сьвяткуючы свае першыя ўгодкі 2-Х11-15, ладзіць ужо лекцыю «Аб беларускай песьні», напісаную самым Сваяком, а прачытаную адным з сяброў хору.

У гэтым жа 1915 г. Каз. Сваяк праводзячы беларускую народную працу, прабуе мову беларускую заводзіць і ў казаньнях у касьцеле, як гэта было 21-Х1.

У 1916 г. беларуская праца ў Клюшчанах пад кіраўніцтвам Сваяка яшчэ больш паглыбілася. Дайшло і да беларускіх школаў. Калядамі 1915 г. былі арганізаваны пад кіраўніцтвам Сваяка беларускія вучыцельскія курсы, а ў 1916 годзе было заложана сем беларускіх школаў, у якіх малодшыя дзеці вучыліся па-беларуску, а старшыя побач з мовай беларускай вучыліся і мовы польскай. Школы гэтыя былі пасьля польскімі ўладамі закрыты.

(Працяг будзе).

З ДАЎНЫХ КРЫНІЦ

## Знайшлі творы

Як піша «Пшэглёнд каталіцкі», у часе рамонту каталіцкае катэдры ў Сандоміры, адчышчаючы сьцены, пад вапяной пабелай адкрылі работнікі некалькі старых абразоў, маляваных на сьцяне (фрэскі), маючых вялікую вартасць як мастацкую, так і археолёгічную. Фрэскі гэтыя займаюць усе сьцены вялікага прэзбітэрыюм. Над вялікім аўтаром намаляваны абраз багаслявячага Хрыста, побач Яго біблійныя пракокі, а над ім хэрубіны ды сэрафіны. На бочных сьценах жыцьцё Хрыста ад Нараджэньня да Ушэсьця. Па правай старане ёсьць вялікі абраз Усь пеньня Прасьвятое Багародзіцы, якая акружана апосталамі да вучнямі. Над абразамі напісы ў лацінскай ды славянскай мовах.

Як здагадваюцца, фрэскі гэтыя маляваў надворны мастак караля Ягайлы (1386-1432) беларус Андрэйка. Да твораў Андрэйкі належаць і фрэскі ў капліцы на замку ў Любліне.

З гэтага відаць, што дзяды нашы пяцьсот гадоў таму сваёй культурай дзівілі ня толькі Маскву, ды Літву, але багацілі і заходнюю Польшчу. Зрабілі нас цёмнымі ўтрата сваёй незалежнасьці, адыход нашых баяраў і духавенства да польскасьці і расейскасьці ды чужацкая няволя.

Сьмешным прад тварамі нашых дзядоў выглядае цьверджаньне цяперашніх культуртрэгераў, што дзяды нашы былі цёмныя і нас прасьвяціў сусед. Прыклад Андрэйкі шмат нам аб гэтым кажа.

(«Беларуская крыніца» № 32,1934г.).

З СУСЕДЗКІХ КРЫНІЦ

## Курапаты — Катынь

Катыньскае злачынства — масавае забойства польскіх афіцэраў, палоненых Чырвонай Арміяй у 1939 г. — на працягу дзесяцігоддзяў не забывалася ні ў Польшчы, ні ў іншых краінах. Як вядома, немцы ў 1943 годзе ў прысутнасці прадстаўнікоў і экспертаў з саюзных ім і нейтральных краін правялі эксгумацыю некалькіх тысяч трупаў і абвінавацілі ў гэтым злачынстве Саветы. Пасля выгнаньня немцаў, зімою 1944 г. савецкія ўлады зрабілі тое самае (без удзелу экспертаў з іншых краін) і абвінавацілі нямецка-фашысцкіх захопнікаў у забойстве польскіх афіцэраў. Потым гэтую тэму змоўчвалі, неяк дзіўна абыходзілі яе. Але на Захадзе было сабрана багата матэрыялаў. Пад ціскам неабвержаных доказаў савецкія ўлады вымушаны былі прызнаць у гэтым віну НКВД.

Катыньскае злачынства — трагічная старонка ў гісторыі Польшчы. Гэтай тэме прысьвечаны шматлікія артыкулы ў прэсе, навуковыя і публіцыстычныя працы, кнігі. Адна зь іх — «Гісторыя катыньскае справы», выдадзеная ў 1989 г. у Беластоку. Аўтар яе — Ежы Лоек, гісторык, пісьменьнік, публіцыст, бацька якога загінуў у Катыні ў красавіку 1940 года. На падставе шматлікіх матэрыялаў аўтар спрабуе паказаць паталагічную крыважэрнасьць, нялюдзкасьць і крывадушнасьць ініцыятараў і выканаўцаў гэтае крывавае акцыі. А хто ж яны былі? Адказ на гэта пытаньне аўтар таксама дае ў кніжцы (падаем у перакладзе з польскай):

«Заходненямецкі тыднёвік «7 Таге» змясьціў 7 ліпеня 1957 года фотакопію і пераклад дакумента, які прынёс у рэдакцыю адзін паляк, што працаваў у часе вайны ў рабочых камандах нямецкае арганізацыі Тодта. Дакумент гэты, датаваны 10 чэрвеня 1940 г., быў падпісаны начальнікам адзьдзелу НКВД у Менску Тартаковым і накіраваны, як надзвычай сакрэтны, генералам Зарубіну і Райхману ў Маскве. Ён быў як быццам знойдзены ў пачатку вайны 1941 г. сярод параскіданых папер у будынку НКВД у Менску. Гэта быў кароткі інфармацыйны рапарт пра заканчэньне «ліквідацыі» лагероў у Казельску, Старабельску і Асташкаве, з паведамленьнем некаторых падрабязнасьцяў. У рапарце называецца нейкі Бурянов, як прадстаўнік цэнтралі НКВД, адказны за ўсю акцыю, і паведамленьца, што «ліквідацыя» Казельска была праведзена пад Смаленскам органамі НКВД зь Менска пад аховаю 190-га пяхотнага палка».

«Пад Смаленскам» — гэта значыцца ў Катыньскім лесе, за якіх небудзь паўтара дзесятка кіламетраў ад Смаленска. Там было загублена каля 4.300 польскіх афіцэраў. Пасьля крывавых 1936-38 гадоў у Беларусі і функцыянеры НКВД, відаць, мелі багэты вопыт, забыты ў Курапатах і іншых мясьцінах. Вось іх і паслалі для «ліквідацыі» палонных палякаў. Як піша ў сваёй кнізе Е.Лоек, для адпачынку «стралкоў» быў прафілакторый, які знаходзіўся амаль побач з ямамі, запоўненымі трупамі замардаваных.



*Цішыня між старых камяніц.*

## УВАГА!

**Хрысьціянска-дэмакратычны Саюз Беларусі — гэта імкненьне да свабоды, незалежнасьці і росквіту роднае зямлі, да адраджэньня духоўнасьці і высакароднасьці асобы, хрысьціянскае маралі і веры.**

**Паведамляем нумары тэлефонаў для кантактаваньня з Арганізацыйным камітэтам ХДСБ: у Менску — 23-21-18, 32-03-01; у Бярэсьці — 1-39-87 (Уладзімір Андрэевіч, з 20 да 22 гадзін); у Віцебску — 36-30-86, 5-83-52; у Гародні — 44-01-27, 45-22-54 (Данута Янаўна); у Гомелі — 55-79-03; у Магілёве — 41-03-72; у Наваполацку — 2-27-05.**

### БЕЛАРУСКІ НАРОДНЫ КАЛЯНДАР

## *Сакавік*

У марцы, як у гарцы. Далёка марац корму пытае, хто летам яго не прыдбае. Сакавік зялёны — ураджай благі.

Сьв. Аксіньня (1 ст.с.) у руцэ лета трымае. Аўдоцьця пагодна — усё лета прыгодна.

На Казімера (4 н.с.) зіма ўмірае.

На 40 мучанікаў (9 ст.с.) з выраю прылятае 40 жаўранкаў. 40 мучанікаў — 40 маразоў.

На сьв. Прыска (10 н.с.) праб'е лёд і пліска.

На сьв. Рыгора (12 н.с.) ідуць рэкі ў мора.

Сьв. Ляксей (17 ст.с.) сохі чэша.

На Язэпа (19 н.с.) пагода — год ураджайны.

На Дабравешчаньне (25) Бог блаславляе ўсе расьліны. На Дабравешчаньне і птушка гнязда не кладзе. Дабравешчаньне як захоча, дык і бусел заклякоча. У каго хлеба шмат — і Дабравешчаньню рад. Сьв. Дабравешчаньне заворвае.

На Матрону (27 ст.с.) шчупак хвастом лёд прабівае.

# Ці ж па-хрысьціянску?

У апошні час разгарнула надзвычай кіпучую актыўнасьць суполка, якая заве сябе «христианско-демократическим союзом Белоруссии», узначальваемая членам царквы адвентыстаў сёмага дня М. Вашкевічам. Яна распаўсюджвае свае камунікаты — «информационные сообщения», широка апавяшчае пра сваю дзейнасьць. Чалавек, недасьведчаны ў гэтых справах, можа памылкова атаясамліваць суполку М. Вашкевіча з хрысьціянскімі дэмакратамі, кірункі дзейнасьці якіх рэпрэзэнтуе «Беларуская крыніца» — палітычная, грамадзкая і літаратурная газэта. На яе старонках была ўжо апублікавана палітычная дэкларацыя арганізацыйнага камітэту па стварэньні Хрысьціянска-Дэмакратычнага Саюзу Беларусі.

А што ж уяўляе з сябе «христианско-демократический союз» — суполка М. Вашкевіча? Як вынікае з «информационного сообщения» і зтых зьвестак, якія мае рэдакцыя «Беларускае крыніцы», 10 сакавіка г. г. адбыўся ўстаноўчы сход суполкі, названы ягонымі арганізатарамі зьездам. «Зьезд» праходзіў у двары дома № 11 па вуліцы Гая ў Менску. Прысутнічала там каля паўтара дзесятка асоб, у тым ліку 5 запрошаных у якасьці гасьцей. Ні дыскусій, ні абмеркаваньняў, ні прывітаньняў ад гасьцей на гэтым «форуме» не было. Было аб'яўлена, што ёсць статут і праграма, што старшыня загадзя выбраны. Тут «зьезд» і скончыў свае «пасяджэньні». Затым ягоныя ўдзельнікі пагрузіліся ў аўтафурганетку і рушылі да касьцёла сьв. Алены і Сымона па пастырскае блаславеньне. На гэтым усё і завяршылася.

У сваіх распаўсюджваемых лістках суполка М. Вашкевіча паведамляе «1-й съезд Христианско-демократического союза Белоруссии закончил свою успешную работу», «В ХДС Белоруссии политика полностью исключена...». І тут мы бачым, што мэты і задачы суполкі гэтай значна адрозьніваюцца ад мэт і задач, якія выкладзены ў палітычнай дэкларацыі арганізацыйнага камітэту Хрысьціянска-Дэмакратычнага Саюзу Беларусі, дзе выразна сказана: «Хрысьціянска-Дэмакратычны Саюз Беларусі — арганізацыя, якая мае на мэце духоўна-маральнае, палітычнае і эканамічнае адраджэньне Беларусі, як праваой, дэмакратычнай, самастойнай і суверэннай дзяржавы».

Безумоўна, кірункі дзейнасьці ХДСБ-суполкі М. Вашкевіча — гэта яе справа. Толькі вось навошта было падшывацца пад чужую назву іншае арганізацыі, якая дэкларацыяй свайго арганізацыйнага камітэта заявіла пра сваё існаваньне. Дарэчы, аргкамітэт дзейнічае ўжо на працягу больш як паўгода. Не цнатліва паводзіць сябе суполка пана М. Вашкевіча, не па-хрысьціянску! Адмахваецца ад палітыкі, а ўжывае ў сваёй назве яўна палітычны тэрмін «дэмакратычны».

Шаноўныя чытачы! Яшчэ раз падкрэсьліваем, каб не было блытаніны, што ні «Беларуская крыніца», ні арганізацыйны камітэт Хрысьціянска-Дэмакратычнага Саюзу Беларусі не маюць нічога агульнага з ХДСБ-суполкаю М. Вашкевіча. Мэты і шляхі іх ажыцьцяўленьня тут розныя.

«Беларуская крыніца»,
Арганізацыйны камітэт ХДСБ.

## АБ'ЯВА

**Зьбіраю матэрыялы пра рэпрэсіі ў 1930-1950 гадах у Беларусі супраць людзей — вязьняў Сумлення і Веры, якія пацярпелі ад самавольства ўлад. Таму прашу іхніх сваякоў, блізкіх і відавочцаў тых падзей, усіх, што перажыў тыя змрочныя часы, падзяліцца ўспамінамі, дакументамі, фатаграфіямі або любой іншай інфармацыяй (на беларускай або рускай мове). Мой адрас:**

**212010. г. Магілёў, Барысаўская вул., д. 13. Адлександровічу Аляксандру Аляксеевічу.**

◆

**Шаноўныя чытачы! Сакавіцкі нумар «Беларускае крыніцы» выйшаў са спазненнем не па віне рэдакцыі. Разам з тым усё ж просім прабачэньня.**

Беларуская крыніца
Палітычная, грамадзкая і літаратурная газэта.
Выдаўца Пятро СІЛКА.
В. а. галоўнага рэдактара Алесь ТРАЯНОЎСКІ.

Адрас для карэспандэнцыі: 220065. г. Менск-65, абан. скрынка 24.

Аўтары адказваюць за дакладнасьць фактаў, цытат, лічбаў, дат, асабістых імёнаў, геаграфічных назваў і іншай інфармацыі, што паведамляецца ў матэрыялах. Рэдакцыя можа друкаваць матэрыялы, не падзяляючы пункту гледжаньня аўтара. Дасланыя матэрыялы не рэцэнзуюцца і не высылаюцца назад аўтарам.

*Паліграфічная фабрыка «Чырвоная зорка» МПВА імя Якуба Коласа. г. Менск.*

Наклад 9 тысяч паасобнікаў.

Зак. 2413.

# «ЗАЦЬВЯРДЖАЕ ЎСЕ ПРАВЫ І ВОЛЬНАСЬЦІ...»

(Працяг. Пачатак на 1-й стар.)

выбарчага права, не зважаючы на род, народнасьць і рэлігію.

3. Да таго часу, пакуль зьбярэцца Устаноўчы Сойм Беларусі, заканадаўчая ўлада ў Беларускай Народнай Рэспубліцы належыць Радзе. Усебеларускага Зьезду, дапоўненай прадстаўнікамі нацыянальных меншасьцяў Беларусі.

4. Спаўняючая і адміністрацыйная ўлада ў Беларускай Народнай Рэспубліцы належыць Народнаму Сакратарыяту Беларусі, які назначаецца Радаю Зьезду і перад ёю трымае адказ.

5. У рубяжох Беларускай Народнай Рэспублікі абвяшчаецца вольнасьць слова, друку, сходаў, забастовак, хаўрусаў, бязумоўная вольнасьць сумленьня, незачэпнасьць асобы і памешканьня.

6. У рубяжох Беларускай Народнай Рэспублікі усе народы маюць права на нацыянальна-пэрсанальную аўтаномію, абвяшчаецца роўнае права ўсіх моваў народаў Беларусі.

7. У рубяжох Беларускай Народнай Рэспублікі права прыватнае ўласнасьці на зямлю касуецца. Зямля перадаецца бяз выкупу тым, што самі на ёй працуюць. Лясы, вазёры і нутро зямлі абвяшчаюцца ўласнасьцю Беларускай Народнай Рэспублікі.

8. У рубяжох Беларускай Народнай рэспублікі ўстанаўляецца найбольшы 8-гадзінавы рабочы дзень».

Імкненьне да незалежнасьці Беларусі знаходзіла ўсё большае пашырэньне, ахоплівала ўсе слаі насельніцтва ўсіх нацыянальнасьцяў, якія жылі на беларускай зямлі. І таму Рада Кангрэсу, пераўтвораная ў Раду Беларускае Народнае Рэспублікі на сваім пасяджэньні 24 і 25 сакавіка 1918 г. прыняла «3-ю Устаўную Грамату».

Нямецкія акупацыйныя ўлады вярхоўных і мясцовых уладаў Беларускае Народнае Рэспублікі, не дапускалі стварэньня яе збройных сіл. І ўсё ж незалежнасьць Беларускае Народнае Рэспублікі было прызнана многімі замежнымі дзяржавамі, у т. л. Украінай, Турцыяй, Чэхаславакіяй, Фінляндыяю, Літвою, Латвіяй, Эстоніяй, Грузіяй. Былі ўстаноўлены дыпламатычныя і гандлёвыя адносіны зь некаторымі замежнымі дзяржавамі Эўропы.

Але далейшыя падзеі пакаціліся шляхамі, якіх нельга было прадбачыць. Беларусь рвалі на часткі і з усходу і з захаду, над ёю скрыжоўваліся штыхі процiборных захопнікаў, яе зямлю пераворвалі гарматныя снарады, і адны, і другія абяцалі волю, роўнасьць, братэрства. А потым сышліся ў Рызе, пагандляваліся, падзялілі нашу зямлю напалам, і былі квіты. Урад Беларускай Народнай Рэспублікі павандраваў у выгнаньне. Пасьля зацятых боек у асобных мясцінах адыйшло на захад і нешматлікае беларускае войска.

Але ня варта забываць, што праклямаваньне Беларускай Народнай Рэспублікі было актам абвяшчэньня незалежнасьці Беларусі, які апераджаў усе наступныя, што былі пасьля, і якія, як паказала далейшая хада гісторыі, былі ня больш, як дэкларатыўнай фіктыўнасьцю. Акт 25-га сакавіка ў савецкай гістарыяграфіі на працягу дзесяцігодзьдзяў або замоўчваўся, або фальсіфікаваўся рознымі інсінуацыямі. Праўда ўсё ж бярэ верх.

ЖУРБОТНАЯ ГАДАВІНА

## Рыжскі трактат — падзел Беларусі

Семдзесят гадоў назад — 18 сакавіка 1921 году ў Рызе быў падпісаны мірны дагавор паміж савецкаю Расеяю і Польшчаю. На моцы яго дагаворныя бакі падзялілі беларускую зямлю на дзьве часткі — усходнюю і заходнюю. З кавалка ўсходняе часткі — шасьці паветаў Менскае губэрні (52 тыс. 316 кв.км. з насельніцтвам 1 мільён 634,2 тыс. жыхароў) — была сфармавана Беларуская сацыялістычная радавая рэспубліка. Пазьней Масква «падаравала» ў 1924 годзе яшчэ 15 паветаў і асобныя вобласьці Віцебскай, Гомельскай і Смаленскай губэрняў. У 1926 годзе ўрад СССР «расшчодрыўся» і вярнуў Беларусі яе Гомельскі і Рэчыцкі паветы.

Заходняя ж частка Беларусі на працягу амаль двух дзесяцігодзьдзяў было «крэсамі ўсходнімі» Польскае дзяржавы. У 1939 годзе савецкая Чырвоная армія падчас нямецка-польскае вайны заняла Заходнюю Беларусь, якая была ўзьяднана з БССР. Такім чынам на захадзе ўсе этнічна беларускія землі ўвайшлі ў склад Беларусі. Па-за яе межамі заставаліся толькі некаторыя паўночна-заходнія тэрыторыі, якія павалічваліся за кошт Беларусі пасьля другой сусьветнай вайны. У канцы 1939 году тэрыторыя БССР складалася з 233,7 тысяч квадратных кіламетраў. Цяпер — з 207,6 тыс. кв. км.

* * *

«Беларусь займае прастору каля 300 тысячаў квадр. вёрстаў, альбо 30 мільёнаў дзесяцін. Прастор гэта не малы. Сярод культурных краёў ня шмат такіх, каб мелі балей зямлі, чымсі мае Беларусь, большая часць гаспадарстваў у Эўропе займае меншы прастор».

(А. Смоліч. Геаграфія Беларусі. Вільня, 1919).



Будынак колішняга гарадзкога тэатра, дзе адбываўся Усебеларускі Кангрэс у канцы сьнежня 1917 года.

Зьмітрок БЯДУЛЯ

## Беларусь

I

Ты — летапіс з аповесьцяў вячыстых,
Акропленых сьлязамі дудароў.
Ты — яснацьвет ад водгульляў агністых
Жняёў, касцоў і старцаў-пастыроў.

У залатой куздзелі гучных сьпеваў
Дрыжыць твой бор, сумуе твой гушчар,
Дзед-чараўнік стаіць пад кожным дрэвам,
Балота сьпіць пад вэлмам зорных чар.

Тваe лугі сьняць аб гуках начных,
Аб вогнішчах начлежных дзецюкоў.
Пад гуд віхроў, варожбаў сьвета-змрочных
Тчэ глебны дух абрадністы вякоў.

Сам Госпад-Бог хадзіў тут па зямліцы,—
Усюль зіхцець-відаць яго сьляды.
Па тых сьлядох красуюцца капліцы,
Па тых сьлядох брыдуць удаль Дзяды.

Зышліся тут Ярыла з Божым Сынам,
Сьвятая Маці з Доляю жывe.
Ў ціні дубоў пад старадаўным тынам
Ільля й Лясун расьселіся ў траве.

Тут кожны крок абвеян казкай сівай,
Што ручаёк — жалосных сьпеваў жмут.
Шурпаты пень на лузе ці на ніве —
Нязнаны дух, або таемны цуд.

Тут воўк — ня воўк, а чалавек закляты,
Тут корч — ня корч, а той-жа селянін.
А бусел-птах — ня птушка, а араты,
Вартуе Дзіў абшар лугоў, далін.

А курганы, а замчышчы, званіцы,
А пустырoў сьвятая цішыня;
А гнёздаў мест ліхтарні-зараніцы,
А вышні гор, а рэчак глыбіня...

Усё жывe жыцьцём Дзядоў адвечных,
Тут кожны век пакінуў знак-пячаць.
Па тых знаках — па тых шляхох па млечных
Ідуць сыны свой край адбудаваць.

І край магіл, той край, дзе жыў Скарына,
Зноў парадзіў прарокаў і байцоў:
Ідуць-брыдуць, бы Нёман зь месца рынуў,
Бы грамада узброеных касцоў.

Іх кліч грыміць, як зычны хор грымотаў,
Як буралом, імчыць у горны сьвет.
Дрыжыць зямля ад нізаў да высотаў,
Праменіць даль Купальскі агняцьвет.

Ваяскоўлі зноў багі сівых Калядаў,
Ратай ім сьпеў кідае на агонь.
Хто на аўтар падсыпле зельле здрады,
Таму ўвесь край шле жудасны праклён.

II

Ёсьць шмат такіх, што да Цябе плячыма.
Маць-Беларусь, адвернуты стаяць,
На Ўсход, Захад халопскімі вачыма,
Як вяпрукі зьдзічэлыя, глядзяць.

Грызуць яны Тваіх дуброў насеньне,
Іх кпінаў гаць забрызгана гразьзёй,—
У глыб зямлі ўвайшло Твае карэньне,
Лясы шумяць высока над Табой.

Ты зноў жывеш, бо Ты ня знала сьмерці,
Магутны дух мацней ад роду ў род.
Твая душа, шчыр-думы Тваіго сэрца
Рдсьлі-цвілі з народу ды ў народ.

Сама, Сама наладзіш сваё веча,—
Разьбілі сталь адгукі вечных струн.
А хто пачне чыніць тут злыя рэчы,—
Таго заб'е наш волі бог — Пярун.

Сама, Сама ад'значыш Свае межы,
Без дапамог няпрошаных дзядзькоў.
Ты забярэш, што да Цябе належа,
Маць-Беларусь, спакон глухіх вякоў!

НА ПАЛІТЫЧНАЙ КАРЦЕ БЕЛАРУСІ

## Сацыял-дэмакратычная грамада

2 і 3 сакавіка 1991 г. у Менску адбыўся ўстаноўчы зьезд Беларускае Сацыял-Дэмакратычнае Грамады, дзейнасьць якое грунтуецца на традыцыях беларускіх сацыял-дэмакратаў. У ім удзельнічалі каля 170 дэлегатаў з усіх абласцей Беларусі і яе сталіцы. Сярод іх было шмат народных дэпутатаў розных узроўняў. Прысутнічалі прадстаўнікі Літоўскай, Латвійскай і Азербайджанскай сацыял-дэмакратычных партый, Аб'яднанай сацыял-дэмакратычнай партыі Украіны, Нацыянальна-дэмакратычнай партыі Беларусі, Сялянскай партыі Беларусі, Рабочага саюзу Беларусі, Беларускага экалагічнага саюзу.

На працягу двух дзён дэлегаты зьезду абмяркоўвалі статут і праграмную заяву БСДГ (вырашана да наступнага зьезду выпрацаваць праграму), рэзалюцыі аб адносінах да рэферэндуму, аб недапушчальнасьці гвалту ў палітычнай барацьбе, аб адносінах да сацыял-дэмакратычнай асацыяцыі суверэнных рэспублік (дзяржаў), аб адносінах да Сацыялістычнага Інтэрнацыяналізму. Пасьля абмеркаваньня і спрэчак гэты дакументы былі зацьверджаны дэлегатамі зьезду.

У разьдзеле статута «БСДГ і іншыя арганізацыі» зазначаецца, што БСДГ лічыць сваімі патэнцыяльнымі саюзьнікамі ўсе палітычныя і грамадскія сілы, якія выступаюць за шматпартыйную парламенцкую дэмакратыю і суверэнітэт Беларускай Рэспублікі, падтрымлівае незалежны прафсаюзны рух, сацыял-дэмакратычныя арганізацыі моладзі. На падставе рашэньняў кіруючых улад Беларускай Сацыял-Дэмакратычнай Грамады яна можа ўступаць у пагадненьні зь іншымі палітычнымі партыямі і грамадзка-палітычнымі рухамі.

На зьезьдзе была выбрана Цэнтральная Рада БСДГ з 37 чалавек. Старшынёю Цэнтральнае Рады выбраны доктар гістарычных навук, прафесар Міхась Ткачоў, намесьнікам старшыні — народныя дэпутаты БССР Мікалай Крыжаноўскі і Алег Трусаў і народны дэпутат Менскага гарадзкога Савета Ігар Чарняўскі.

Была прынята пастанова пра выданьне газэты БСДГ «Грамада», галоўным рэдактарам якое выбраны А. Сідарэвіч.

Кар. «Бел. крыніцы».

## Сялянская партыя

23 лютага адбыўся ў Менску ўстаноўчы зьезд Беларускай сялянскай партыі, у якім удзельнічаў 131 дэлегат ад усіх абласцей Беларусі і яе сталіцы. У ліку іх: 84 — сяляне, 16 — рабочыя і служачыя сельскай гаспадаркі, 31 — прадстаўнікі інтэлігенцыі. З дакладам арганізацыйнага камітэту выступіў член-карэспандэнт УАСГНІЛ, дырэктар Заходняга аддзяленьня УАСГНІЛ І. Нікітчанка. Былі абмеркаваны праект статута і праграмнай заявы Беларускай сялянскай партыі, прынята рэзалюцыя па адносінах да рэферэндуму 17 сакавіка і да саюзнага дагавору, рэзалюцыя і тэкст тэлеграмы ў падтрымку Старшыні Вярхоўнага Савета Расійскай Федэрацыі Б. Ельцына.

З прывітаньнямі да дэлегатаў устаноўчага зьезда БСП выступілі прадстаўнікі Нацыянальна-дэмакратычнай партыі Беларусі, Аб'яднанай дэмакратычнай партыі і арганізацыйнага камітэту Беларускай Сацыял-Дэмакратычнай Грамады. Прысутнічалі народныя дэпутаты БССР Л. Зданевіч, У. Станкевіч і С. Папкоў. Было вырашана стварыць дэпутацкую фракцыю БСП у Вярхоўным Савеце Беларускай ССР.

Устаноўчы зьезд абраў Цэнтральную раду і Цэнтральную рэвізійную камісію. Старшынёй партыі абраны Я. Лугін, намесьнікамі старшыні — І. Нікітчанка і М. Антоненка.

Кар. «Бел. крыніцы».

## Зьезд Беларускага народнага фронту

23—24 сакавіка адбыўся чарговы зьезд Беларускага Народнага Фронту. Яму папярэднічала правядзенне абласных канферэнцый, на якіх была абмеркавана дзейнасьць БНФ за перыяд паміж зьездамі, вялася размова пра адносіны з палітычнымі партыямі і грамадзкімі арганізацыямі.

На зьездзе быў абмеркаваны даклад пра дзейнасьць БНФ, прыняты абноўленыя статуты і праграма, выбраны новы склад Сойму і яго кіраўніцтва. Старшынёй Сойму абраны З. Пазьняк, намесьнікамі старшыні — У. Голубеў, У. Заблоцкі і Ю. Хадыка.

Кар. «Бел. крыніцы».

Адам СТАНКЕВІЧ

## З ЖЫЦЬЦЯ І ДЗЕЙНАСЬЦІ КАЗІМЕРА СВАЯКА

Працяг. Пачатак у № 1 (769).

1905 год — гэта год першай расейскай рэвалюцыі. Чуткая душа Сваяка ўжо шмат што бачыла недарэчным у грамадзка-палітычным жыцьці Беларусі пад панаваньнем расейскае імпэрыі. А гэта рэвалюцыя яшчэ больш адкрыла яму вочы. Рваўся ў сьвет, да навукі.

«Ідэалам добрых маіх бацькоў, — кажа Сваяк, — было відзець мяне ў духоўным сане. І я пайшоў па лініі жыцьця, якая мне здавалася найпрасьцейшай і якая была здаўна ў матчыных снох».

У 1906 і 7 г. Сваяк прыбывае ў Вільню і рыхтуецца ў духоўную сэмінарыю.

«Помню дзіўны мамэнт. Я прыехаў у Вільню з дарагім сваім айцом. Зайшліся ў катэдру, бацька дзеля Бога, а я сам ня ведаю дзеля чаго: маліцца я ня мог...

Бацька апусьціўся на калені і пачаў свае малітвы. Сэрца маё забіла трывогай. Прад вачымі стаяла будучыня неразгаданая, тайнічая. Здалося мне, што лёс мой нятолькі ад мяне залежны. Агляд прадвечны Бога мусіць быць над кожным. Чаго Ён ад мяне жадае?.. Ці Ягоная помач мне не патрэбна?.. Я хацеў высокага зразуменьня і вялікіх учынкаў. Мысьль мая аднак спакарнела, відзячы сваю слабасьць і зьменнасьць. Я маліўся».

Тут першы раз пазнаецца ён з беларускім адраджэнскім рухам, спаткаўшыся з «Нашай нівай».

Урэшце ў восені 1908 г. і ў наступных спатыкаем Сваяка ў Духоўнай сэмінарыі ў Вільні. Вось што ён аб гэтым піша:

«Праз тры гады сэмінарскіх студыяў я працаваў ня помнячы аб Божым сьвеце, аж на чацьвертым цяжкі сэмінарскі сыстэм зламіў мяне: я мусіў выехаць у горы, каб ратаваць сваё здароўе. У гэтым часе аддаў я ў рэдакцыю «Беларуса» першыя свае творы «Пад Богам» («Беларус», № 28, 1913 году) і пачаў адтуль працу ў розьвітку беларускай народнай ідэолёгіі. Пабыў зіму 1912 і 1013 г. у Закапаным і з гэтае прычыны толькі вясной 1915 г. высьвяціўся на ксяндза ў Петраградзе».

Ідэолёгічныя Сваяка заінтарэсаваньні ў гэтым часе відзім з наступнага яго ліста да брата з 1.1V.

«Рух палітычны ці наогул грамадзкі мае падклад этычны, дык у такіх перасіленнях, якія мы перажываем, ці ж можа быць душа чалавека спакойнай? Адраджэньне мовы нашае і то мае сувязь з справамі этыкі, бо ці ж падклад яго ня вяжацца з пытаньнем: «можна, нельга?» Сацыялізм ня можа ня ўмешвацца ў справы натуры рэлігійнай, бо этыка і рэлігія — дзьве сёстры неразлучныя і абедзьве ў натуры чалавека. Мы павінны дайсьці да выснаву, што калі адкінем хрысціянства з руху нашага народнага, то ён, гэты рух, расплывецца ў золкай міжнароднасьці і этычнай развязласьці. «Не пакідайма мовы роднай, каб ня ўмерлі». Не пакідайма рэлігіі глыбокай нашай, каб не загавець душой...»

Беларуская сьведамасьць і беларуская ідэолёгія ў Сваяка разьвіваецца далей, у 1913 г., вярнуўшыся з Закапанага, гэтак ён піша:

*«Жнівень — 1913.* Ад даўняга часу чую да цябе, маці Беларусь, асаблівую прывязанасьць — і болей, чым прывязнасьць: надта гэта адчуцьцё зарылася ў сэрца. Люблю я цябе і сільна люблю. Аб'ехаў я нямала ўжо сьвету, шукаючы красы і праўды, а найбольш бачу тэй і другой у сваім родным краі, у сваёй мілай зямельцы. Стройны горы і даліны ў Татрах, прыемны малюнкі ў зямлі Кракаўскай, а ўсё ж цудоўней наш бор вяльможны, пякнейшыя роўні і гаі нашы: страйнейшыя, бо гавораць проста да душы тваёй, а мова іх пранікае цябе цэлага, лечыць раны сэрца твайго. О, хараство тут неа-

*(Заканчэнне на 4-ае стар.)*

З СУСЕДЗКІХ КРЫНІЦ

## Зарабляюць на антыкамунізме

«Книжка озлобленного почти до умопомрачения белогвардейца»... Гэтак ацаніў У. І. Ленін «Двенадцать ножей в спину революции» Аркадзя Аверчанкі. І вось «Двенадцать ножей...» (з працытаванай прадмоваю правадыра) выдадзена ў Менску ў камплекце з «Чонкиным». А надрукавна кніга ў... друкарні выдавецтва ЦК Кампартыі Беларусі.

Няўжо камуністы ўзяліся друкаваць «белогвардейцев» і іншых дэсідэнтаў, каб дадаць свой уклад у справу плюралізму? Усё куды прасцей: друкарня ЦК КПБ надрукавала тыраж па дагаворным кошце і зарабіла для партыйнай скарбонкі кругленькую суму.

## Падаходны з «магільных»

Згодна з пастановаю Вярхоўнага Савета БССР насельніцтву, якое жыве на тэрыторыі, дзе ўзровень чарнобыльскага радыяцыйнага атручэньня ад аднаго да пяці кюры/кв. км, выплачваюць кампенсацыю. Усяго 15 рублёў на чалавека. Гэтую суму «магільных» у вярхах палічылі за цалкам дастатковую для прафілактыкі захворваньняў, звязаных з радыяцыяю. Але і гэтую мізэрную падачку выканаўчая ўлада абклала падаходным падаткам. Цяпер гэтых нікчэмных 15 рублёў ня хопіць нават на вянок. Затое на атрыманыя ад «разумнага» падатка абкладаньня сродкі ўлады змогуць апублікаваць свае запэўненьні пра абсалютную бясшкоднасьць узьдзеяньня радыяцыі.

«Независимая Балтийская газета»).



*Фрагмент убранства касьцёла Пятра і Паўла ў Вільні.*

А ЯК МЯРКУЕ ЧЫТАЧ?

## ШЛЯХІ БЕЛАРУСКАГА АДРАДЖЭНЬНЯ

Быццам ад землятрусу, скаланецца некалі магутная савецкая імперыя. Хвалі дэмакратыі ўсё больш падмываюць яго вялікасьць таталітарны рэжым. Дакацілася ўсё гэта і да нас — беларусаў. Таму паўстае пытаньне: які шлях, уступаючы ў апошнюю дэкаду XX стагодзьдзя, сярод вялікае колькасьці альтэрнатыўных варыянтаў, што зьявіліся ў апошнія гады, ці яшчэ зьявяцца, выбера Беларусь? Эканамічныя цяжкасьці нас чакаюць вялікія, што асабліва відаць на пустых паліцах магазінаў, няпэўная і змрочная наша будучыня. У мяне нават зьявілася нейкае прымхлівае прадчуванне хуткага зьдзяйсьненьня прадказаньняў знакамітага Настрадамуса наконт вялікіх катаклізмаў, якія маюцца адбыцца ў сярэдзіне 90-х гадоў.

Але такое прадчуваньне, здаецца, толькі ў мяне ці ў падобных мне. На сесіях Вярхоўнага Савета БССР гэткага не заўважаецца. Камуністычная наменклатура працягвае быць ва ўладзе, не зьбіраецца здаваць сваіх пазіцый і самаўпэўненымі паводзінамі дае нам зразумець: «я — вечная!».

Аднак падзеі апошніх гадоў усё ж даюць падставу думаць, што гэта ня так. Больш таго, я ўпэўнены, што канец таталітарнага рэжыму не за гарамі. Колы ягоныя буксуюць усё больш з кожным днём. Сталі яваю цяжкія, але беспаваротныя крокі да дэмакратыі ў Прыбалтыцкіх дзяржавах. Гэтыя крокі цяжкія найперш таму, што імперскі монстр, хоць і моцна аслаблены за апошні час, у сваёй агоніі ня хоча выпускаць з сваіх драпежных кіпцюроў нікога і нічога — ні душы чалавечай, якая імкнецца да волі, ні зямлі, на якой нарадзіўся чалавек і дзе спрадвеку жылі ягоныя продкі.

Вельмі важным у гэты няпэўны час зьяўляецца вызначэньне таго, якім шляхам трэба ісьці беларусам дзеля пабудовы новага дэмакратычнага грамадзтва. Апошнім часам модным стала гаварыць пра шматпартыйнасьць, пра нейкія міфічныя зьмены ў самой кампартыі (што на самай справе ня што іншае, як камуфляжная перафарбоўка). Усё гэта блеф і будзе блефам пакуль кампартыя сапраўды не адыйдзе ад улады.

Хочацца верыць, што праз нейкі час штосьці зьменіцца. Больш таго, настане час, калі вольны беларускі народ будзе самастойна вырашаць свой лёс. Таму ўжо цяпер варта падумаць пра пабудову новага, дэмакратычнага грамадзтва.

Каб вызначыць шляхі адраджэньня Беларусі на гэтым новым этапе, варта зрабіць рэтраспектыўны экскурс — разгледзець тыя «набыткі», якія прынесла беларускаму народу камуністычная дыктатура. Прыгадаем толькі галоўныя зь іх.

Першы. Фактычна да пачатку 2-й сусьветнай вайны была амаль цалкам вынішчана беларуская інтэлігенцыя. А інтэлігенцыя — гэта вучоныя, пісьменнікі, тэхнічныя творцы, адным словам, гэта мозг нацыі.

Другі. Паралельна першаму працэсу ішло вынішчэньне сялянства — носьбіта душы народу. Народную культуру, мову, звычаі вынішчалі пачынаючы з сумна вядомых часоў «калектывізацыі» і пасьпяхова завяршылі (амаль) у час татальнай ліквідацыі беларускіх школ у 60-х гадах.

Гэта ўсё было.

А што ж засталося? Што ўяўляе сабою тып сучаснага беларуса, які засяляе гэтую, цяпер атручаную Чарнобылем зямлю? Дык вось, гэта новы беларус мае дзьве істотныя рысы.

Па-першае, гэты чалавек страціў сваю нацыянальную сьвядомасьць. Ён ня памятае свае роднае мовы і, можа, таму саромеецца яе. Ён ня ведае свае гісторыі, таму што калі і вывучаў гісторыю, дык толькі «Историю СССР», а наконт беларускай, дык ён меў толькі падручнік Абэцэдарскага. Забыць сваю родную мову, ня ведаць свае гісторыі, пазбыцца нацыянальнае сьвядомасьці... Здаецца, больш ужо няма горшага. Хіба засталося толькі забыць родную маці. Вось гэткага Беларусь атрымала сучаснага сына-манкурта, «гома савецікуса» ў беларускім варыянце.

Па-другое. Гэты чалавек забыў або ніколі ня ведаў Бога. І здарылася гэта таму, што нашы сьвятыні былі зруйнаваны атэістамі, што філасофія антыхрыста заняла тое месца ў сэрцах людзей, дзе раней быў Бог. Страчана была хрысьціянская мараль, забыты запаветы Хрыста. Прыйшла новая мараль — камуністычная, у якой пад зьнешне прыгожай афарбоўкаю схавана яе нялюдзкая сутнасьць тут ёсьць і «ўкрадзь» (абы выканаць «план»), і «забі» (класавага ворага), дазваляецца ўсё, абы дастаць міласьці ў вышэйшага начальства. У нас крадуць усе, хто можа — ад дробных вулічных зладзюжкаў і да важных, саноўных чыноў высокага рангу. У нас бессаромна хлусяць, крыўдзяць слабейшых, слова «міласэрнасьць» забытае.

Але годзе рабіць гэты змрочны пералік, ён амаль бясконцы.

Падсумоўваючы сказанае: мы намалявалі сярэднестатыстычнага насельніка (насельніцу) Беларусі, які сфармаваўся ў выніку 73-гадовага панаваньня камуністычнае дыктатуры.

Як выратаваць такога духоўна траўмаванага чалавека, які да ўсяго яшчэ атрымаў фізічную атруту ад Чарнобыля? Ці ёсьць яшчэ шанц? Мне думаецца, што гэткі шанц яшчэ ёсьць. Ёсьць таму, што ўсе мы дзеці Божыя, ягоныя часьцінкі.

На практыцы шлях да пабудовы новага дэмакратычнага грамадзтва павінен праходзіць праз замену існуючай таталітарнай сістэмы грамадзтвам новага парламенцкага тыпу накшталт дзяржаў Заходняй Эўропы ці ЗША. Носьбітамі новых плыняў зьявяцца і ўжо зьяўляюцца новыя прагрэсіўныя партыі, якія, нягледзячы на пэўныя разыходзаньні ў сваіх поглядах, адзіныя ў галоўным — процістаяць манаполіі камуністычнай аднапартыйнасьці. Акрамя гэтага, адзінства іх у тым, што ў статуце кожнай (НДПБ, ДПБ, БСДГ і іншых) адзначана — мэтаю дзейнасьці іхняй зьяўляецца пабудова дэмакратычнага грамадзтва. Апошняе, зразумела, добра. Але я дазволю сабе задацца наступным пытаньнем: што такое «чыстая» дэмакратыя? Дэмакратыя, як антыпод таталітарызму? Што дадуць дэмакратычныя пераўтварэньні дэнацыяналізаванаму беларусу? На мой погляд нічога добрага гэтыя пераўтварэнні не дадуць. Наадварот, калі даць нашаму дэнацыяналізаванаму, маральна дэградаванаму грамадзяніну волю, то лёгка прадбачыць і рост злачыннасьці, і яшчэ большае падзеньне маралі, і далейшы рух грамадзтва да хаосу.

Таму найперш трэба зьмяніць самога чалавека, трэба яго перавыхаваць у нармальнага грамадзяніна сьвету. Відавочна, што за 73 гады камуністычнага «выхаваньня» адчуваюцца і генетычныя зрухі ў фарміраваньні «гома савецікуса». Але, здаецца мне, шматвяковая генная эвалюцыя ўсё ж такі мацнейшая за камуністычную і возьме сваё. Таму і адваротную задачу адраджэньня чалавека можна зьдзейсьніць за тэрмін меншы, чымсьці 73-гадовы.

Такім чынам мы прыйшлі да наступнае высновы — дзеля ратунку беларускага этнасу ад яго поўнага зьнікненьня з сусьветнай арэны, трэба зьліквідаваць тыя згубныя рысы ў сучаснага беларуса, пра якія мы толькі што гаварылі. Гэта значыць, што трэба адрадзіць ягоную нацыянальную сьвядомасьць і выхаваць яго духоўна на спрадвечных рэлігійных каштоўнасьцях. Гэты працэс будзе ісьці побач з агульнадэмакратычнымі працэсамі ў грамадзтве, але першыя павінны мець прыярытэт над апошнімі.

У зьвязку з гэтым высьвятляецца кірунак палітыкі, неабходнасьць якое ў нашым грамадзтве высьпела. Гэта — далейшае разьвіцьцё нацыянальна-дэмакратычных рухаў, партый з аднаго боку, і хрысціянска-дэмакратычных арганізацыяў ды царквы — з другога.

За імі будучыня.

Старшыня Каардынацыйнае Рады Нацыянальна-Дэмакратычнае партыі Беларусі
Анатоль АСТАПЕНКА.